Opłata poczt. uiszczona rycz.

Цана асобнага нумару 50 гр.

# Голас Праваслаўнага Беларуса

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У МЕСЯЦ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул 9—2-а

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісу ад 10—2 што-дня апр сьвят.

ПАДІСНАЯ ПЛАТА:
за 1 год . . 5 зл. —
„ 6 месяцаў 3 зл. —
„ 3 месяцы 1 зл. 50 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК:
на вокладцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр. за радок пэтыту.

№ 3. Вільня, Студзень—Люты—Сакавік 1932 г. Год II.

## ЗЬМЕСТ.



Друкарня Я. ЛЕВІНА, Вільня, Нямецкая вул. № 22.

# Голас Праваслаўнага Беларуса

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ЦАРКОЎНА-ГРАМАДЗКАЙ ДУМКІ

№ 3. Вільня, студзень—люты—сакавік 1932 г. Год II.

## „Изволися Духу Святому... но—не нам!“...

„Адным з найдаражэйшых скарбаў кожнага народу зьяўляецца яго родная мова... Па самай сутнасьці сваей рэлігійны бок людскога жыцьця, як бок найбольш інтымны, павінен перад усім знайсьці выраз у роднай мове кожнага народу Нажаль мы бачым, што нашае духавенства не заўсёды выкарыстывае адзін з наймагутнейшых спосабаў уплыву жывым словам на сваіх прыхаджан ., занядбоўвае свой абавязак навучаньня Слова Божага ў роднай мове“...

Мітрапаліт Дыонісій.

(Адозва 1/8—1928).

Пастанова Зьезду духавенства Віл. Эпархіі 1—2 сакав.—у справе беларусізацыі павінна зрабіць на ўсіх сьведамых беларусоў самае цяжкае ўражэньне.

Вось гэтая пастанова — у яе расейскім орыгінале (Протокол № 3)—„Съѣзд духовенства полагает, что проводником всякаго націонализма (?) должен быть прежде всего (?) сам народ, который в свое время (?) безболѣзненно отразит его в жизни церковной, и введеніе хотя бы оффиціальнаго (?) бѣлорусскаго языка несомненно породит внутри Церкви недоразумѣнія, вызовет недовольство народа и подѣлит чад Церкви на многочисленныя в этом отношеніи группы; народ вполнѣ довольствуется мѣстным (?) языком, значительно рознящимся от того бѣлорусскаго языка, который принят в современной бѣлорусской литературѣ“.

Такі адказ даў Зьезд прадстаўнікоў нашага духавенства, праўда—не дэлегаваных шляхам свабодных выбараў на мясцох, як прадбачыць гэта Саборны Лад, але запрошаных „по должности благочинных“ дый па асабістаму выбару з цэнтру, — на асноўную задачу беларускага царкоўна-нацыянальнага руху, на чаловы лёзунг нашага часопісу: зьвязаць адраджэньне нашай Праваслаўнай Царквы з агульным нацыянальным адраджэньнем, з агульным культурна-грамадзкім уздымам нашага вякамі заняпалага народу.

Зьмест гэтага адказу хіба-ж зусім ясны:

Пастанова Зьезду ня хоча вязаць адраджэньня Праваслаўнай Царквы ў нашым Краі з агульным духоўна - нацыянальным адраджэньнем беларускага народу.

„Протокол № 3“ — наадварот — хоча разьбіць гэтую сувязь Праваслаўя з нацыянальнай душой беларускага народу, якая, збудзіўшыся да новага жыцьця, шукае ў сваей гістарычнай прадзедаўскай веры і Царкве магутнай апоры — у жаролах рэлігійнага духу.

„Протокол № 3“ хоча пазбавіць душу беларускага народу гэтай натуральнай і неабходнай — **арганічнай** — сувязі паміж яе рэлігійным і нацыянальным жыцьцём, з якой пачыналася заўсёды гістарычнае жыцьцё усіх народаў, якая ў-ва ўсіх іх зьяўлялася асновай іх духоўнай сілы і бязьмежнага разьвіцьця.

Бо-ж — як жа інакш, як ня поўным запярэчаньнем усялякай ролі ў царкоўным адраджэньні нашага народу яго нацыянальна-адраджэнскага руху, трэба лічыць **рашучае адкіданьне** ў **„Протаколе“ літэратурнай мовы нашага народу з яго царкоўнага жыцьця?!**

„Протокол № 3“ — ня прызнае (!) „бѣлорусскаго языка“, які ён сам прызнае „принятым в современной бѣлорусской литературѣ“..

Але-ж беларуская літэратурная мова „прынята“ — ня толькі ў беларускай літэратуры, дзе ў ёй пісалі й пішуць нашы найлепшыя песьняры і пісьменьнікі, яна прынята ў беларускай школе ўсіх ступеняў на Заходзе й на Усходзе, у ёй працуюць беларускія навуковыя ўстановы — з Акадэміяй Навук на чале. На беларускай літэратурнай мове, каротка кажучы, ідзе ўсё нацыянальнае адраджэньне Беларускага Народу... Урэшце ў беларускай мове — і аб беларускай мове! — выдаюцца, як паказывае наш эпіграф, аўтарытэтнейшыя адозвы Найвышшай Улады нашае Царквы!

Ці-ж з гэтага ня вынікае, што „Протокол № 3“ **адкідае** — **побач з „бѣлорусским литературным языком“** — **і ўсю беларускую літэратуру, усю поэзію, школу, навуку, увесь адраджэнскі рух, усе духоўна-нацыянальнае жыцьцё Народу?!** У замену ўсяго гэтага беларускаму народу пакідаецца — „мѣстный язык“, на якім прывыклі гутарыць з „простым народам“ яго сельскія бацюшкі-расейцы...

Хіба-ж — крыху замала!..

Адабраць у народа літэратурную мову, гэта значыць насамперш — прынцыпова адабраць у яго права на **нацыянальнае адзінства**, значыць пазбавіць народ усялякіх магчымасьцяў імкнуцца да нацыянальнага аб'яднаньня, значыць пакінуць яго ў стане рассьцярушанай жывёльнай этнографічнай масы.

Адабраць у народа літэратурную мову, гэта значыць пазбаўляць народ наймагутнейшага спосабу абараніцца ад найстрашнейшай для яго жывой и творчай душы небясьпекі: дэнацыяналізацыі.

А — ці-ж нашыя айцы і пастыры духоўныя ня ведаюць, што іменна гэтая небясьпека асабліва пагражае беларускаму народу, як на Усходзе таксама й на Захадзе?

Бо-ж зразумела — ніякі „мѣстный язык“ не заменіць народу

роднай яму мовы асьвечаных слаёў народу, мовы, у якой адбываецца культурнае творства народу.

Таму, калі будзе ў народа адабрана родная літэратурная мова, тады няўхільна будзе яму накінена чужая мова ў зложаным культурна-грамадзкім жыцьці сучаснасьці.

Але можа пад „дыплёматычным“ выразам „мѣстный язык“ трэба разумець не мясцовую гаворку („говоры“, дыялекты), але расейскую мову?

Дык—ці-ж запраўды сябры Зьезду маюць надзею, што, не пускаючы ў Царкву беларускае мовы, яны ўтрымаюць у ёй мову расейскую?! Сумны прыклад Віл Дух. Сэмінарыі хіба-ж залішне красамоўна запярэчывае гэтай ілюзіі!

Адкідаючы беларусізацыю нашае Царквы, яны толькі тым лягчэй і тым хутчэй адчыняць брамы да яе полёнізацыі...

Дык—ці-ж гэтага хочуць дачакацца „в свое время“ аўтары „протоколу“?!.

---

У цеснай сувязі з адкіданьнем беларускай літэратурнай мовы Зьездам духавенства стаіць і яго запярэчаньне ролі беларускай інтэлігенцыі ў жыцьці свайго народу. — Пастанова Зьезду кажа, што „проводником всякаго націонализму (?) должен быть прежде всего (?) сам народ“.

Але-ж заўсёды ў гісторыі кожны народ выступае арганізавана ў асобе свайго культурнага слою, сваёй інтэлігенцыі, прыладам якой — у дзеле нацыянальнага самапачуцьця, аб‘яднаньня („націонализма“) і культурнага ўзгадаваньня народу—служыць літэратурная мова Народу.

Гэты гістарычны процэс разьвіцьця народу, пэратварэньня яго з жывёльнай, этнографічнай масы ў нацыянальна-іерархічны організм —у нацыю—можа адбывацца толькі пад кіраўніцтвам вышэйшых асьвечаных слаёў народу—яго інтэлігенцыі, духоўнай і сьвецкай.

І толькі такі гісторычны процес зьяўляецца нормальным і „безболѣзненным“. Наадварот выступленьне „самого народа“—у якасьці „проводніка всяческаго націонализма“,—гэта значыць — барацьбіта за сваі нацыянальныя правы, адбываецца ў гісторыі звычайна толькі тады, калі адказныя кіраўнікі народу, яго інтэлігенцыя, не спаўняюць сваей духоўна-організуючай ролі, трацяць рэлігійную сувязь з народам, перат варэюць сваю місію служэньня Богу й Народу ў „служэньпе царом зямным“, як піша гр. Віттэ, — у сабеслужэньне, як гэта рабіла праваслаўнае духавенства ў даваеннай Расеі!..

А ці-ж ня ведаюць аўтары „протоколу“ й таго, што вельмі рэдка ў гісторыі ўласнае выступленьне „самого народу“ на абарону сваіх пакрыўджаных правоў бывае організаваным і „безболѣзненным“?!

Дык — ці-ж іх прапазыку нам, беларускай інтэлігенцыі, „пачакаць“, трэба разумець, як жаданьне іх „дачакацца“ „в свое время“

такога стыхійнага выступленьня „самога народа“ на абарону сваіх правоў, свайго „нацыяналізму“?!

---

Аўтары „пратаколу“ далей баяцца „введеніем оффиціальнаго бѣлорускаго языка“ выклікаць непаразуменьне, падзел і нездаволеньне ў Царкве. Але-ж—ці-ж няма ўжо й падзелу й нездаволеньня ўнутры Царквы, „чада“ якой складаюцца з трох розных нацыянальна сьведамых народаў, для якіх аднак-жа наша духавенства хоча за ўсялякую цану ўтрымаць „оффиціальный язык“—расейскі... Дык—ці ж не на груньце гэтай прымусовай русіфікацыі нерасейскіх „чад“ Царквы і пагражае ей царкоўная смута, пагражаючая можа яшчэ горшым падзелам? Дык хіба-ж горшая небясьпека пагражала-б адзінству Праваслаўнай Царквы, калі афіцыяльныя ея кіраўнікі, адмаўляючы абодвум пакрыўджаным народам поўні іх нацыянальна-рэлігійнага жыцьця, паставяць перад імі рубам у самай небясьпечнай форме недарэчную альтэрнатыву: адзінства Царквы, або нацыянальнае жыцьцё?!

Мы ведаем, што такія прыклады неаднойчы бывалі ў гісторыі: ведаем і тое, як сумна для адзінства Царквы яны заўсёды канчаліся.

---

Як бачым, аніводны довад „протоколу“ проці боларускага „нацыяналізму“ ня вытрымоўвае бліжэйшага разгляду. Усе яны прыкрываюць толькі жаданьне „пачакаць“, імкненьне—ня гледзячы на яўную безнадзейнасьць, утрымаць чым даўжэй панаваньне над беларускім народам чужога нацыяналізму — расейскага.

Ніякай духоўна-пераконваючай сілы аргумэнты „протоколу“ ня маюць. Але ня маючы рацыі, „протокол“ мае ўладу. Аўтары „протоколу“ маюць фактычную сілу выступаць „проводнікамі“ свайго расейскага нацыяналізму ў царкоўнае жыцьцё беларускага народу.

Такім чынам—становішча „пратаколу“ трэба прызнаць чыста палітычным. Палітычная тэза „протоколу“ тады становіцца зусім яснай: „беларускі царкоўна - нацыянальны рух („сам народ“) яшчэ ня мае настолькі сілы, каб мог змусіць аўтараў „протоколу“ да ўступак, а таму спаўняць дамаганьні яго кіраўнікоў няма мусу!..

Што гэта так, ясна кажа прыклад Валыншчыны, дзе „сам народ“ змусіў ужо расейскае духавенства здаць цалком яму тыя-ж самыя „расейскія пазыцыі“, якія яно так перможна бароніць яшчэ ў нас...

Але-ж запытаемся мы: ці павінны існаваць такія адносіны палітычнай барацьбы ў Царкве, у царкоўным жыцьці? Ці магла-б існаваць такая барацьба, такая адсутнасьць супольнае мовы ў такіх, здавалася-б, рэлігійна-бясспрэчных пытаньнях, калі-б наша духавенства было-б ня толькі па крыві, але й па духу блізкім і родным беларускаму народу?! Ці-ж на груньце Царквы — паміж ідэолёгамі духоўна - нацыянальнага адраджэньня народу і яго

афіцыяльным духавенствам павінна быць нормальнай палітычная барацьба супраціўнікаў, якая вырашаецца заўсёды толькі фактычным „суадношаньнем сілаў“, а не паразуменьне супрацоўнікаў у духу і ісьціне, як гэтага вымагае рэлігія Хрыстова?

---

Нашая група настолькі верыць у сілу і праўду Божага Розуму, што хоча вырашыць нашае разыходжаньне з аўтарамі „протоколу“ не шляхам барацьбы і „політыкі“, але шляхом — „свабоднага дзеяньня рэлігійнага сумленьня на паступаньне абодвух чыньнікаў царкоўнага жыцьця — пастыра і народу“, як пісалі мы ў № 1 нашага часопісу.

Таму, навет атрымаўшы на нашыя гарачыя, сьвятыя, абапертыя на згодных загадах духоўнай і сьвецкай навукі, дамаганьні такі духоўна-жорсткі, бюрократычна-халодны адказ чыста-палітычнага духу, мы німала ня трацімо веры ў тое, што Розум Божы пераможа. Нам выпадае толькі задача: падвоіць сваі даводы слушмасьці ды сьвятасьці нашых дамаганьняў. Бо-ж мы ніколі не забываем, што ў царкоўным жыцьці ніякае іншае паступаньне не дапусьціма. Толькі мы маем права трэбаваць такога-ж адношэньня і з боку тых, што трымаюць ключы ад Царквы, што стаяць на старожы Царкоўнай Праўды і Ісьціны.

Але можа праўда і ісьціна Слова Божага — не на нашым баку? Можа мы мыляемся, калі не згаджаемся з нашымі Айцамі і Пастырамі, з паважанымі аўтарамі „протоколу № 3“?

Хай-жа само Эвангэліе вырашыць наш спор.

Дзеяньня Апостальскія кажуць, што — каб Апосталы маглі выканаць загад Хрыста: „ісьці прапаведываць усім народам Слова Божае, хрысьцячы іх у імя Айца, Сына і Сьвятого Духа“, Дух Сьвяты, сасланы на іх Хрыстом, даў ім дар гутарыць мовамі ўсіх народаў. „І дзівіліся ўсе, чуючы кожны родную сваю мову, у якоў радзіліся“... І былі сярод гэных народаў — і мідзяне, і парфяне, і эламіты, і жыхары Мэсопотаміі, і Кападокіі, і Эгіпту, і Фрыгіі, і Рыму, і Крыту і Арабіі... (Дѣянія Ап. II, 2 і дал.). Дык ці-ж адзін толькі беларускі народ павінен быць пазбаўлены Слова Божага „ў роднай мове, у якой радзіліся яго сыны і дочкі“?!

Дык-жа—не! Калі сам Дух Сьвяты прызнаў гэтае права ўсім народам, дык пэўне-ж не пазбавіць беларускі народ гэтага права... „протокол № 3“ Зьэзду духавенства Віленскай эпархіі!

---

У кожным разе трэба ясна і выразна выбраць адно з двух: або Царква—з яе загадамі Духа Божага, або палітыка — з яе барацьбой!..

---

# Саборнасьць і парлямантарызм.

*(Разважаньні аб духу царкоўнай улады).*

У апошнія часы так многа гавораць і пішуць аб саборнасьці, ці аб „саборным ладзе“ ў Царкве.

Пры гэтым адны ў гэтай саборнасьці бачаць нейкую „панацею“,— г. ё. цудоўнае лякарства ад усіх царкоўных хвароб, і спадзяюцца пры помачы саборнасьці вылячыць царкоўнае цела ад усіх заганаў у яго жыцьці і арганізацыі. Другія, наадварот, з апаскай паглядаюць нават на самую магчымасьць зьмены царкоўнага строю, і ў саборнасьці відзяць тую самую небясьпеку і тыя самыя недахопы, якія часта закідываюцца рэспубліцы і парлямантарызму. Саборнасьць, па гэтым паглядам, павінна ўнясьці ў царкву разлад, палітычную барацьбу, партыйны дух, які можа ахапіць усё унутранае яе жыцьцё.

Галасы гэтага апошняга напрамку гучаць перад усім звонку, з боку каталікоў, якія вераць і цьвердзяць, што „царква, па воле Бога, павінна быць монархіяй“. Але нам важней ня гэты пагляд, а тыя, якія існуюць у-ва ўнутраным жыцьці самой Праваслаўнай Царквы. Тут галасы, варожыя да саборнасьці, гучаць перадусім і найчасьцей спасярод тых расейскіх палітычных дзеячоў, якія наскрозь прасочаны монархістычнымі ідэямі, як, напр., гр. Граббе ў „Воскресномъ Чтеніи“.

Галасы другога рода, г. ё. абаронцаў саборнасьці, таксама нярэдка гучаць і з асяродкаў, наладжаных на палітычны лад,—з боку так-званых „старых парламантарыстаў“, якія ў саборнасьці хочуць бачыць нейкі „дэмакратычны строй“ і водгукі парлямантарызму.

Аднолькава мыляюцца, як тыя, так і другія, бо наагул царкоўная ўлада будуецца на зусім іншых падставах і прынцыпах, чым улада сьвецкая, і ня ёсьць ані монархія, а ні рэспубліка, ані парлямантарная канстытуцыя.

„Цары царствуюць над народамі і князі іхныя ўладараць над імі, але *паміж вас* (г. ё. у Хрыстовай Царкве) *не павінна быць так*“,— сказаў Ісус Хрыстос да сваіх вучняў (Мф. 20, 25; Лк. 22, 25), і гэтым выразна паказаў, што царкоўная ўлада не павінна будавацца на ўзор палітычнай монархіі.

Але дужа памыліўся-б і той, хто на падставе гэтага стаў-бы цьвердзіць, што Царква павінна быць нейкай дэмакратычнай рэспублікай. Гэта памылка, як мы сказалі ўжо, таксама часта чуецца ў некаторых абаронцаў парлямантарызму, прасочаных больш палітычным, чым царкоўным духам. Для выясьненьня сутнасьці гэтай памылкі мы павінны тут перадусім сказаць некалькі слоў аб прынцыповай розьніцы паміж уладай сьвецкай і духоўнай.

Кожная сьвецкая ўлада, якая-б яна ні была, ці монархічная, ці рэспубліканская, нават і тады, калі яна стараецца абаперціся на вышэйшы аўтарытэт (манарх—*памазанік Божы*, парлямант — выявіцель *волі народу*), у канцы-канцоў усе-ж зводзіцца да фізычнай сілы і прымусу. Фактычнай адзнакай, выяўленьнем гэтай сілы ёсьць *войска*

наружнае і ўнутранае (паліцыя), а сымболем гэтай апоры ёсьць тое аружжа, якое звычайна носяць прыбоку выпаўніцелі волі сьвецкай улады. Вось дзеля чаго Хрыстос, калі Пілат задаў яму пытаньне: „ці ты цар?", адказаў: „царства Мае ня ёсьць ад гэтага сьвету (ня ёсьць сьвецкае, бо калі-б яно было ад гэтага сьвету, *слугі Мае* (войска) *змагаліся-б за Мяне*" (баранілі Мяне). (Іоан. 18, 33—36). Дзеля гэтага і ап. Павал, калі гаворыць аб уладзе сьвецкай, то хоць і называе сьвецкага ўладара „Божым слугой", але дабаўляе: *„не бо без ума меч носіт"*, т. ё.: не бяз сэнсу ў яго пры баку вісіць *меч — сымболь фізычнай сілы* і прымусу (Рим. 13, 4). Дзеля таго ён і прызывае падпарадкавацца ў справах сьвецкіх сьвецкай уладзе свабодна і сумленна, бо ўсё роўна, калі не падпарадкуешся сам, дык змушаны будеш пакарыцца сіле, якая і ёсьць у канцы-канцоў па жыцьцёвай сутнасьці ўзапраўднай апошняй апорай сьвецкай улады.

Адсюль відаць, што Царква, калі і ёсьць монархія, дык толькі ў «*нябесным пляне*» („не от міра сего"), паскольні Бог ёсьць Уладаром і Пачаткам усяго, а *на зямле* яна ёсьць царствам іншага духу: «царства Божае ўнутры вас ёсьць» (Лк. 17, 21), бо тут і сам Хрыстос калі прышоў на зямлю, дык не каб панаваць, — «не каб Яму служылі, але *каб паслужыць* і аддаць душу сваю за вызваленьне многіх» (Мф. 20, 28).

Улада Хрыстова, дзеля гэтага ня ведае наружнага прымусу. Яе сіла ёсьць толькі ў прыцягіваючай моцы самой *Ісьціны*, і аснова яе адносін ёсьць *свабода*. «Я дзеля таго радзіўся і дзеля таго прыйшоў у сьвет, каб *сьведчыць аб ісьціне* і ўсякі, *хто ад ісьціны* (хто здольны пачуць гэту ісьціну), *слухае Майго голасу*» (Іоан. 18, 37). «Уразумейце ісьціну, і *ісьціна зробіць вас свабоднымі*» (Іоан. 8, 32). «Калі Сын вас вызваліць, дык узапраўды зробіцеся свабоднымі» (8, 36). Дзеля гэтага сваіх вучняў Хрыстос называе ўжо не рабамі, а сынамі і прыяцелямі (Іоан. 15, 14).

Такім чынам, Царква Хрыстова *на зямлі* не павінна быць монархіяй. Але ў тым самым сэнсе яна не павінна быць і нейкай «дэмакратычнай рэспублікай».

Па першае рэспубліка, хоць нават і дэмократычная, таксама як і монархія, апіраецца на фізычную сілу, а па другое, кожная рэспубліка ў сваей нават ідэі перад усім ёсьць ведамы «рэзультат суадношэньня рэальных сіл», ёсьць нейкая «раўнадзейная сіла» — усіх палітычных кірункаў, усіх клясавых і іншых інтарэсаў. Дзеля таго *партыі*, як выяўленьне гэтых інтарэсаў, заўсёды ёсьць такое самае *неабходнае і праўнае з'явішча кожнай рэспублікі* (ці констытуцыйнай, монархіі, бо гэта ёсьць тая самая рэспубліка, толькі з дынастычным сталым прэзыдэнтам), як і *парлямэнт*—мейсца перагавораў для гэтых партыяў.

У Царкве-ж Хрыстовай, па самай яе ідэі, не павінна быць ніякіх партый, ні партыйнасьці. У ёй—«адно цела і адзін дух». Дзеля таго ўсялякія праявы партыйнасьці й падзелу ў царкоўнай практыцы заўсёды прыймаюцца за найвялікшае нарушэньне царкоўнага духу,—за адхіленьне ад царкоўнай нормы. Успомнім, напрыклад, як

ап. Павал гавора аб той партыйнасьці, якая з'явілася ў Карынтскай царкве (пачатак 1-га пасл. д. Кар.). Падзел Царквы на партыі, па яго пагляду ёсьць падзел самаго Хрыста («еда раздѣлися Христосъ»?). Дзеля гэтага і сам Хрыстос так горача маліўся перад Сваей сьмерцю аб тым, каб у Яго Царкве «ўсе былі—адно» (Іоан. гл. 17).

Выходзячы з гэтага пункту, мы не павінны думаць, што Сабор гэта ёсьць нейкі від парлямэнту. Наадварот—гэта ня толькі не парлямэнт, але ў пэўным сэнсе нешта зусім проціўлежнае.

Кожная пастанова парлямэнту ёсьць рэзультатам нейкага *кампрамісу.* У гэтым нават і ёсьць самая сутнасьць парлямэнтарызму, бо чым больш кампрамісны характэр будзе мець парлямэнтская пастанова, тым больш гэта будзе сьведчыць аб тым, што ў ей узгоднены ўсе існуючыя партыі і кірункі. Кожная-ж пастанова сабору ёсьць *„выяўленьне волі Сьв. Духа“* (изволися Духу Сьв. і Намъ“ Дзеян. 15, 8), ёсьць *пабеда* (а не кампраміс) Духа Хрыстова над усімі чалавечымі інтэрэсамі і поглядамі, узбуджанымі воражай да Хрыста (антыхрыставай) сілай. У Царкве ня можа быць *паасобных* інтэрэсаў, апрача аднаго—*агульнага спасеньня,*—бо тут ніхто не спасаецца *коштам другога* (няма барацьбы за істнаваньне), але кожны, спасаючы сябе, спасае і другога, ці на адварот: спасаючы другога, тым самым спасае і сябе. Тут ніхто ня крыўдзіцца на тое, што адзін скарыстаў працу, ці духоўныя багацьця другога, як гэта часта бывае ў сьвецкім жыцьці („адзін пасеяў, а другі пажаў“), але тутака „і сеячы і жнучы разам цешыцца будуць“ (Іоан. 4,36).

Дзеля гэтага зусім не маюць рацыі тыя супярэкі, якія ставіць нам, пагражаючы рэзультатамі „парлямэнтарызацыі царквы“ наш крытык з газ. „Наше Время“. У гэтых пагрозах і трывогах віцаць толькі з аднаго боку *несьвядомасьць* аб узапраўдным духу царкоўнай арганізацыі („не вѣсте, коего Духа есте“), а з друго боку - проста *маловерые,* якое чуецца ўва ўсіх тых, як праціўніках (не выключая нават іерархаў), так нават і ў абаронцах саборнасьці, якія, гаворачы аб ей наўперад вылічаюць, колькі ў будучым Саборы будзе галасоў духавенства, колькі міран, і г. д. (быццам рыхтуюцца да *вайны*). Думаюць, што па гэтым лічбам можна згары даведацца, хто на гэтым Саборы *пераможа.* Пераможа на Саборы заўсёды адно,—гэта Дух Божы. А калі-б па „Божьему попущенію“ часова перамагла якая іншая сіла, то такі Сабор ўжо на сутнасьці сваей ёсьць не ўзапраўдны, а „разбойнічы сабор“, і ўсе роўна ў царкоўнае жыцьцё ісьцiннай Царквы Хрыстовай яго пастановы пя ўвойдуць, бо-ж паміж ісьцінай і ілжою ні згоды, ні кампраміса быць ня можа.

Сабор зьбіраецца не для т го, каб вясьці пераговоры паміж партыямі, а каб у аб'еднанай любоўю царкоўнай грамадзе лепш выявілася ўзапраўдная сіла Царквы—сіла Духа Хрыстова.

Так мы разумеем саборнасьць.

**Увага рэдакцыі.** Гэтай тэме мы, як орган царкоўна-грамадскай думкі, маем прысьвяціць цэлы рад артыкулаў, часткова ў парадку вольнай трыбуны, каб даць свабоднае выяўленьне абодвум мамэнтам гэтай думкі — царкоўнаму і грамадскаму, якія толькі у ідэале зьліваюцца ў вышшай сынтэзе. Першы артыкул, высьвятляючы першую й аснаўную тэзу — царкоўную — гэтта друкуем.

# Адказ „Воскресному Чтенію“.

У № 8 „Церковно-народнаго илл. журнала“ „Воскресное Чтеніе“, які зьяўляецца, як ведама, офіцыёзам нашай Мітрополіі, зьмешчана „письмо из Вильны“ пад загалоўкам: „Из бѣлорусскаго церковнаго движенія“.

„Письмо“ гэтае, калі ня зусім праўдзіва характэрызуе самы беларускі царкоўны рух, дык за тое дасканала іллюструе адношаньне да яго з боку ўладных выдаўцоў і кіраўнікоў аўтарытэтнага часопісу.

Бо-ж — зразумела — ня тое для нас цікаўна і важна, што нейкі „Виленскій“ й корэспондэнт піша няпраўду й агіду аб беларускім царкоўным руху: важна тое, што паважаныя рэдактары і выдаўцы кіруючага царкоўна-народнага органу Мітрополіі друкуюць у ім такія рэчы, ня праверакочы іх на месцы — праз адказныя, аўтарытэтныя мясцовыя чыньнікі, калі ўжо ня ўмеюць, ці ня хочуць знайсьці ў Вільні для свайго органу больш асьведамленага ды сумленнага корэспондэнта.

---

Аўтар „письма“, які хоча неяк захаваць выгляд бесстароннага наглядчыка, нават „спагадчыка“ руху, першым чынам сьпяшыць згары ужо дыскредытаваць гэты рух — указаньнем на яго слабасьць ды нязначнасьць.

„Лічба прадстаўнікаў белар. інтэлігэнцыі, наагул вельмі нялічнай, якія цікавяцца царкоўнымі справамі, — вельмі невялікая“. З усіх „беларускіх нацыянальных дзеячоў, піша ён, можна было-б дагэтуль назваць толькі а. Ал. Каўша, Хв. Вярнікоўскага, дый хіба (пожалуй) яшчэ дырэктара Беларускай Гімназіі (?) А. (?) Астроўскага і 2-3 іншых асоб“.

Ці-ж ня ясна, што лічыцца з такім слабасільным „штабам“ беларускага царкоўнага руху, падтрымліваць яго, уваходзіць глыбей у рэлігійную цэннасьць самага руху — няма чаго: трэба — „пачакаць“.

Чаго-ж хоча „дачакацца“ корэспондэнт варшаўскага царкоўна - народнага часопісу, аб гэтым ярка кажа далейшы зьмест яго „письма“.

З ведамым „сумам“ аўтар яго сцьвярджае, што гэтак слабы беларускі царкоўны рух датаго-ж пабіўся, падзяліўся яшчэ на варожыя адна да аднэй „групы“.

„Дзеяльнасьць“ першай групы, так-зв. „Бел. Цэнтр. Пр. К-ту“, аўтар ацэнівае спачатку даволі об'ектыўна: „была хутчэй номінальная“... „выдала некалькі выпускаў малазьместнага журнальчыка ды падавала розным уладам даклады з вельмі шырокімі дамаганьнямі“.

Аб гэтых „дакладах“ аўтар „письма“, відаць, паінформаваны дакладна...

„Больш ведамы, дзякуючы свайму скандальнаму зьместу, знаменітыя „аднаднёўкі“, выданныя быццам (якобы) без ведама і згоды самога К-ту“ (яго сэкрэтаром. Рэд.).

І гэта („якобы“!..) таксама ведае дакладна аўтар.

Высьветліўшы б.-м. трафна аблічча так зв. „Ц. Б. Пр. К-ту“, аўтар пераходзіць да „другой групы белар. дзеячоў з дыр. Астроўскім на чале“, паўстаньне якой „выклікала ведамае ажыўленьне ў пасыўным сьпярша беларускім царкоўным руху“.

„Нажаль, сумуе аўтар, гэтае ажыўленьне дагэтуль выявілася галоўным чынам у рэзкім расколе і разыходжаньні паміж абедзьвюма групамі белар, дзеячоў, што — з пункту гледжаньня царкоўнай карысьці, дадае ён, — непажадана“. „Здавалася-б, піша ён далей, абедзьве групы хочуць аднаго... Здавалася-б няцяжка было-б згаварыцца і стварыць супольную праграмму. Але — дзе там! — Няма горшых ворагаў у Вільні, як дзьве названыя групы“. Дык— „няма літэральна тэй гадасьці, у якой п. п. беларускія „царкоўныя дзеячы“ не абвінялі-б адзін аднаго... Калі-б паверыць ім, дык прышлося-б прызнаць, што мы маем дачыненьня з цалком адпетымі ў моральным сэньсе асобамі“...

Сэнс гэтага, хіба-ж „цэнтральнага“ месца ў „письмѣ из Вильны“ — ясны. — „Мясцовы“ — дык пэўне-ж — дасканала паінформаваны корэспандэнт публічна заверае уплывовы орган Варшаўскага Цэнтру, што абедзьве групы „беларускіх царкоўных дзеячоў“, (чужаслоў аўтара) — варты цалком адна аднэй; часопісы іх „прысьвечаны блізу выключна ўзаемным асабістым нападкам і абвіненьням“, дый „полеміка паміж імі стаіць на нязвычайна нізкім роўні“, напоўнена ўзаемнай лаянкай, а навет — „прямой і грубой клеветой“... Так, калі ня зусім сумленна, дык пэўна-ж „спрытна“ інформуе „Віленскі“ муж даверу афіцыёз Варшаўскай Мітраполіі.

Зразумела-ж, што такой „інформацыі“ мы без адказу

ды поўнага высьветленьня справы пакінуць ня маем ані права ані ахвоты.

————

Насамперш—здавалося-б—для кожнага здаровага розумам і сумленнага наглядчыка павінна быць ясна, што „другая група“ якраз дзеля таго й паўстала, каб распачаць барацьбу з „дзеячамі“ першае групы, — з іх агіднай, „скандальнай“, як сьцвярджае сам аўтар „письма“, дык хіба-ж — „непажаданай з пункту гледжаньня царкоўнай карысьці“— працай...

Паўстала дзеля таго, каб, з другога боку, адразу спыніць, скасаваць, хіба-ж няменш скандальную для беларускага грамадзянства „монополію“ гэнай „групы“ на прэдстаўніцтва беларускага царкоўна-адраджэнскага руху...

Дык –ці-ж аб гэтым нашым „расколе і разыходжаньні“ з царкоўнымі скандалістамі сумуе — „з пункту гледжаньня царкоўнай карысьці“ — муж даверу варшаўскага „царкоўна-народнага журналу“?!..

Тады—цікаўна было-б для ўсіх праваслаўных даведацца ад паважанай рэдакцыі паважнага царкоўнага часопісу, як уяўляе яна сабе „згоду і супрацоўніцтва“ з „дзеячамі“, якія напаўняюць, перапрашаем, „сарочым памётам“ сваю „царкоўную“ прэсу, блявузгаючы ім усьцяж на найвышэйшых іерархаў нашае Царквы, бэсьцячы ды шальмуючы іх, дыскрэдытуючы побач з тым у вачох народу найвышшыя цэннасьці Рэлігіі і Царквы Праваслаўнай?...

На чым прапануе рэдакцыя „Воскреснага Чтенія“ „згаварыцца“ з гэнай „групай“, якую „стварыць супольную програму“?

Ужо—з гэтага аднаго відаць, у які тупік лёгічных і моральных недарэчнасьцяў ды небясьпекаў заганяе паважную рэдакцыю аблудная „бесстароннасьць“ яе „Виленскаго“ карэспондэнта, вярней: яго нясумленнае імкненьне за ўсялякую цану „другую“ — нашую — групу зьнізіць у вачох чытачоў да роўня „першай“.

Усё гэта й змушае нас высьветліць справу раз на заўсёды, каб ўжо ніхто больш ня сьмеў рабіць публічна такой „памылкі“.

————

Аўтара „письма“, як пэўне-ж і п. п. рэдактароў варшаўскага часопісу асабліва цікавіць, як зразумела-ж і ўсіх праваслаўных беларусаў, пытаньне аб узаемных адносінах паміж абедзьвюма групамі, з аднаго боку, і *мясцовымі* Царкоўнымі Уладамі, з другога.

І тутака— другое цэнтральна месца „письма“, у якім — цалком ужо „расшыфроўваецца“ пазорная „бесстаронасьць“ яго аўтара, так спрытна заманіфэставаная ім на пачатку „письма“.

Высьветлім цяпер і гэтае, ясна-ж, асабліва важнае пытаньне, пры чым высьветліцца сама сабой, спадзяемся, й яшчэ больш важнае для ўсіх нас пытаньне—аб адношаньні да абэдзвюх беларускіх царкоўных групаў з боку *Цэнтральных* Царкоўных уладаў Мітраполіі...

Аўтару пісьма быццам няведама „позыцыя Цэнтральных Уладаў“, але „ведама позыцыя мясцовай Улады—Епархіяльнай“.

Зараз пабачым, што ў гэтым — праўда, прынамсі — адносна да апошняй. „Віленская Эпархіальная Улада — паводле некаторых чутак — схіляецца хутчэй згадзіцца на супрацоўніцтва з групай сьв. Каўша і Хв. Вярнікоўскага“. Так цьвердз!ць аўтар, забыўшыся ўжо аб тым, што сам ён напісаў аб гэтай „скандальнай“ групе напачатку свайго „письма“. Ня менш дзіўна тутака й тое, што „Виленскій“ муж даверу афіцыёзнага царкоўнага органу — для таго, каб паінформаваць апошні ў такой важнай справе, як адношэньне Віленскай Эпархіяльнай Улады да розных актыўных групаў беларускага народна-царкоўнага руху — карыстаецца нейкімі („нѣкоторымі“) „чуткамі“, а не зьвяртаецца проста і беспасярэдна да аўтарытэтнай першакрыніцы веды і праўды аб гэтым — да самой Эпархіяльнай Улады.

Ці-ж ужо адно гэта не зьяўляецца, выбачайце, тэхнічным, прынамсі, скандалам для афіцыёзнага часопісу, ня кажучы тутака аб запраўднай скандальнасьці выразнай ужо і бясспрэчнай няпраўды ў далейшых „інформацыях“ яго „Виленскаго“ мужа даверу, яўна нявартага, як мы пакажам зараз, гэтага высокага даверу.

„Прынамсі нядаўна (!), а іменна 23 сьнежня, дэлегацыя „Бел. К-ту“, у складзе п. п. Вярнікоўскага і Більдзюкевіча, была прынята Высокасьвячоным Тэодосіям дый мела з ім даўгую бяседу, якая — па даставерным весткам—мела пры-

мірыцельны характар. Таму ў Вільні спадзяюцца прызнаньня К-ту мясцовай царкоўнай улядай".

Так „інформуе", ці „падказывае фактам" варшаўскі часопіс. Пагледзім цяпер, што кажуць самыя факты хіба-ж яшчэ больш „нядаўнія", факты, якія, здавалася-б, павінны быць ведамы—ня толькі „Виленскому" корэспондэнту „Воскреснаго Чтенія", але і кіраўнікам гэтага органу.

1—3 лютага ў Вільні адбыўся Эпархіяльны З'езд духавенства, які паміж іншым прыняў наступную пастанову адносна „К-ту" п. п. Вярнікоўскага і Більдзюкевіча, якую падаем у расейскім орыгінале, каб адхіліць згары закід у тэндэнцыйнай „стылізацыі" яе зьместу.

Протокол № 4 кажа літэральна:

„Эпархіальны С'ѣзд духавенства счел нужным обратить вниманіе на появленіе в епархіи пасквильнага журнала — под назв. „Свѣточ Бѣлоруссіи" і листовок-однодневок, издающихся одной из бѣлорусских партій".

«Эпархіальное Собраніе должно подчеркнуть, што лица, руководящія вышеозначенными изданіями, «воистину не вѣдят, что творят»... «приносят непоправимый вред Православію, которое и без того в настоящее время переживает «Голгофу»... «Да будет им стыдно за то, что они приняли на себя *каинову роль*»...

На гэтай пастанове Эпархіяльнага Сабраньня стаіць рэзолюцыя Уладыкі Архіяпіскапа: «Нахожу правільным»...

Зьезд Віленскай Эпархіі адбыўся 1—3 лютага; № 8 «Воскр. Чтенія» памечаны 21 лют. Каб даведацца аб гэтым нядаўнім факце часу было даволі. Калі не п. «Виленскій», дык сама Рэдакцыя павінна была мець ужо ўвесь матэр'ял офіцыяльны аб пастановах З'езду, павінна была ведаць праўду аб тых царкоўных адносінах на месцы, аб якіх яна падае публічныя інфармацыі. Які вывад трэба там зрабіць з усяго сказанага, хай яна сама нам парадзіць...

---

Каб высьветліць да канца гэтыя нашыя царкоўныя адносіны, дый ня толькі ў „мясцовым маштабе", падамо да шырокага ведама тутака яшчэ адзін документ. Дзівімся толькі, чаму ён дагэтуль ня пабачыў сьвету. Але хіба-ж — яшчэ дзіўней, што ён дагэтуль ня меў ніякіх практычных вынікаў, якія, здавалася-б, павінен быў няўхільна выклікаць...

# ПРОТОКОЛ

## Пастырскаго Собранія духовенства г. Вильно, приходского и монашествующаго. Г. Вильно—21|X 1930г.

Присутствовали: о.о. Архим. Савватій, Филипп, Макарій; о.о. протоіереи: Дзичковскій, Тучемскій, Красковскій, Кушнев, Бѣляев; о.о. іереи: Владимірскій, Бѣляев А-р, Кульчицкій, Сайкович, Савицкій, Авласенко и о. іером. Леонид. (Як бачым, „отсутствовал" толькі адзіны іер. А-р Коўш Рэд.).

Прдс. о. благоч. вил. прот. Дзичковскій Іосиф. Секр. — св. Л. Савицкій.

1. Познакомившись с предложенным Пастырскому Собранію отзывом группы пастырей г. Вильны и всецѣло раздѣляя чувства их возмущенія и негодованія в отношеніи лиц, позволивших себе, не стѣсняясь средствами борьбы, вести разрушительную работу по разложенію мирной жизни в Епархіи нашай, дерзнувшим печатным словом непечатно поносить высокій сан іерейскій и даже архіерейскій, и стоя на стражѣ свят. Православія в предѣлах наших, Пастырское Собраніе постановляет:

Просить Яго Высокопреосвященство призвать к публичному покаянію членов самозваннаго „Бѣлор. Церк. Комітета" и лиц, им содѣйствующих, а буде они не покаются, анафематствовать таковых по рѣченному:

„Измите злого от самих себе".

2. В отношеніи свящ. А. Ковша, своими дѣйствіями и поведеніем, даже внѣшним видом дискредитирующаго авторитет Епархіальной власти и позорящаго священный сан, очевидно легкомысленно, необдуманно им на себя принятый, того свящ. Ковша, который не желает внимать голосу благоразумія и злоупотребляет добротой Владыки нашего, здѣсь в Вильнѣ безцеремонно нарушая основныя положенія дисциплины церковной—и одновременно там, в Варшавѣ, лицемирно выставляя себя много пострадавшим на службѣ, защитником правды Божіей, им попираемой, — просить Его Высокопр-во принять рѣшительныя мѣры для прекращенія творимаго им соблазна и для блага Церкви из'ять его совершенно из среды священнослужителей Епархіи нашей.

(Прапускаем п. 3, выражаючы „глубокое соболѣзнованіе незаслуженно оскорбленному" „прэссой" п. п. Ковша и Вярниковскаго Архіяпископу Тэодосію).

4. Копію настоящаго протокола почтительнѣйше препроводить на благоусмотрѣніе Его Блаженства и в мѣстное воеводское управленіе. (!)

Протокол падпісаны усімі прысутнымі, гэта значыць усім віленскім духавенствам, за выняткам *аднаго толькі — атсутнага* — а. Ал. Каўша. Пры гэтым цікаўна *адзначыць на ім падпіс* архім. Піліпа Марозава, які цяпер зьяўляецца адным з „унутраных слупоў" „групы а. Каўша і Хв. Вярнікоўскага, галоўным інфарматарам і дарадцам „Бел. Цэнтр. Пр. К-ту".

---

Думаем, што—пасьля апублікаваньня намі зьмешчаных вышэй документаў—праўда аб „позыцыі Віленскай Епархіяльнай Улады", ўсяго шанаванага і шанаючага сябе віленскага духавенства, як і ўсяго беларускага праваслаўнага царкоўнага грамадзянства, — у справе адношаньня да „тақзван. Б. П. К-ту" і яго правадыроў—можа лічыцца высьветлянай да канца—бясспрэчна і назаўсёды.

А тым самым, думаецца, у значнай меры—пасярэдна—азначаецца і адношэньне ўсіх пералічаных чыньнікаў *нашага царкоўнага жыцьця* да „*другой групы белар. царкоўных дзеячоў*", прынцыпова *варожай да* „Ц. Б. Пр. К-ту", якую прэдстаўляе *наш часопіс*.

За тое, *нажаль*, зусім ня высьветлілася дагэтуль, ня гледзячы на ўсе ведамыя ёй дакладна факты і докумэнты, „позыцыя" у тэй-жа справе Цэнтральнай Царкоўнай Улады, якая, рызыкуючы далейшым пашырэньнем „соблазна", далейшым ператварэньнем „соблазна" ў „скандал",—па няведамым і незразумелым для нас прычынам — усьцяж „толеруе", каб не сказаць: „падтрымлівае" дзеячоў Ц. Б. Пр. К-ту", як цьвердзяць у нас вельмі многія, а ў першую чаргу—самі гэтыя „дзеячы"...

Ці гэта—праўда?—На гэтае пытаньне цяпер ужо безадкладна і няўхільна дасьць нарэшце адказ *наша* Цэнтральная Царкоўная Улада.

Каб чым *балей аблягчыць* ёй *гэтую задачу*, паставім тутака рубам і *сформулюем выразна* і нядвузначна гэтае пытаньне.

Ці Вышшая Царкоўная Улада мае толераваць надалей, ня кажам ужо аб „падтрыманьні", „групу дзеячоў", якія ўводзяць „соблазн" і „скандал" у царкоўнае жыцьцё, якія „ўзялі на сябе ролю Каіна", якія, „ня спыняючыся ні перад

якімі спосабамі, руйнуюць ды раскладаюць мірнае жыцьцё Эпархіі", якія „маюць дзерзкасьць печатным словом непечатно поносить высокій сан іерейскій и архіерейскій", якіх усё віленскае духавенства — з сваім Архіяпіскапам на чале, вось ужо больш як паўтара гады трэбуе — або прызваць к публічнаму пакаянію, або—прэдаць царкоўнаму праклёну?!.

Пачынаючаяся 30 сакавіка чарговая сэсія Сьв. Сіноду павінна будзе няўхільна вырашыць нарэшце гэтую жахліва зацягнуўшуюся справу,—даць ясны адказ на сформуляванае намі вышэй, хіба-ж зусім выразна,—пытаньне.

---

Ці варта—пасьля ўсяго, што сказана вышэй, зьвяртацца да аўтара „Письма из Вильны" з запытаньнем: на якой падставе дый якім правам дазваляе ён сабе зьмешываць нашу групу і наш часопіс з тымі „дзеячамі" дый з іхнімі „выданьнямі", аб якіх так выразна высказаліся ўсе адказныя чыньнікі нашага царкоўнага жыцьця?.. Ці можа ён — у падкрапленьне сваіх агідных і нясумленных закідаў нам— прывесьці хаця-б адзін які доказ і довад, ня кажучы ўжо аб чым-небудзь падобным прыведзеным намі докумэнтам?.. Пэўне-ж—да „полемікі" з гэтым гр. „Виленским" мы ня зьнізімся, як ня зьніжаліся ніколі й да „полемікі" з „дзеячамі групы а. Каўша і Хв. Вярнікоўскага". Як проці іх, таксама й проці гр. „Виленскаго" і тых, хто стаіць за ім, мы толькі баронім праўду, раскрываючы іх запраўднае аблічча, ахоўваючы ад іх дарагія для нас царкоўныя і нацыянальныя цэннасьці.

Але варта раскрыць бясспрэчна — й да канца запраўдную, хаця й „спрытна" схаваную у „Письмѣ из Вильны" мэту гэтага мяшаньня ў адну «кучу» нас з гэнымі «дзеячамі". Ці-ж запраўды не даволі падставаў цьвердзіць, што, друкуючы гэтае «письмо», п. п. кіраўнікі варшаўскага часопісу хочуць прадставіць «бесстаронна» справу так, быццам— абедзьве „беларускія царкоўныя групы»—аднолькава нявартыя нічога—ані з грамадзкага, ані з моральнага, ані з царкоўнага боку... Дык — ці-ж варта, ці-ж можна—як з аднэй таксама і другой супрацо нічаць шануючым сябе царкоўным уладам—дзеля задаволеньня царкоўна-нацыянальных дамаганьняў беларускага народу?!.

Такая—першая, «прынцыповая», так-сказаць, «фронто-

вая» думка «письма». Другая — «практычная», «тылавая», так-сказаць, гучыць крыху ўжо інакш:

«А калі ўжо канешна трэба выбраць з дзьвюх групаў адну, дык лепш хіба-ж для «супрацоўніцтва» выбраць тую, якая... моральна, грамадзкі, нацыянальна дый усяляка—слабшая, якая таму менш будзе вымагаць да сябе пашаны, з якой менш таму трэба будзе лічыцца, якая—датаго-ж... так сьмела ды «крэпка» лаецца, якой трэба дзеля таго канешна хаця чым «запхнуць рот», каб спыніць няпрыемную зьвягу"...

Ці-ж бы гэта праўды было так?..—Вось пытаньне, на якое таксама павінна даць выразны адказ чарговая рашаючая сэсія Сьв. Сіноду.

---

## „Герой церковнаго безвременья".

Пратакол № 2 пастановаў Эпархіяльнага Зьезду ў Вільні 1 — 3 лютага ў справах місіянэрскіх кажа:

1. „Асоба місіянера павінна быць *беззаганнай у сэньсе маральным, у прошлым яго не павінна быць ніякіх плямаў на яго маральнасьці*... Місіянер павінен... мець у сябе іскру Божую дый умець запаліць яе ў другіх. Ён павінен быць *глыбака рэлігійным, да самаахвярнасьці прэданым Сьвятой Царкве Праваслаўнай*"...

2 Прасіць Яго Высокапрэасьвячэнства прыняць у лік братоў Сьв. Духава Манастыра іероманаха, каторы, маючы хаця-б толькі сярэднюю адукацыю багаслоўскую па сваей умысловай і моральнай якасьці быў-бы *дастойным* і актыўным працаўнікам на полі місіянерскай дзеяльнасьці".

Як ведама, зусім нядаўна быў адстаўлены—нарэшце!—ад місіянерскай працы архім. Філіп Марозаў, які з канца 1927 г. займаў у нас вельмі важнае й адказнае становішча „епархіяльнага місіянера".

Такім чынам, вышэй прыведзеная пастанова Эпархіяльнага Зьезду *выразна скіравана проці архім. Марозава*, які на становішчы, вымагаючым маральнай беззаганнасьці, чыстага прошлага, глыбокай рэлігійнасьці і самаахвярнай прэданнасьці Праваслаўнай Царкве, аказаўся, відаць, *недастойным*.

Што гэта іменна так, што пастанова гэтага пратаколу фактычна скіравана была проці а. Марозава, відаць і з таго, што на паседжаньні, на якім разглядалася місіянерская справа, Эпархіяльнае Сабраньне навет не запрасіла ў свае „присутствіе" ні самога «эпархіяльнага місіянера» а. Марозава ні (блізкага да яго) сучаснага загадчыка «місіянерскім сталом», сябра консісторыі прот. І. Красkоўскага.

Замест іх Зьезд запрасіў—прот. Тучэмскага і прот. Кушнёва.

А калі гэта так, дык адразу насоўваецца цэлы рад неадхільных моральна, царкоўна і грамадзка пытаньняў.

Архім. Марозаў, проці якога фактычна высунены такія закіды ў протакольнай рэзолюцыі Эпархіяльнага Сабраньня, закіды, пацьверджаныя папярэднім звальненьнем яго з становішча эпархіяльнага місіянера, *пакінены* аднак-жа дагэтуль на хіба-ж ня менш важнай і адказнай—кіруючай пасадзе *сябры Віленскай Духоўнай Кансісторыі.*

Дык—ці-ж у розуме дый у сумленьні кожнага праваслаўнага не паўстане ў найвялікшым „смущеніи духа“ – пытаньне:

А ці-ж для сябры Праваслаўнай Кансісторыі, для найбліжэйшага памочніка Вышэйшай Эпархіяльнай Улады па ўпраўленьню эпархіяй —не патрэбны кваліфікацыі «моральнай беззаганнасьці», «чысьціні прошлага», «самаахвярнай прэданнасьці Праваслаўю»??!

І цяпер, калі гэтае пытаньне стала рубам дый у такой яснай і выразнай форме—дзякуючы апублікаванаму намі тутака Пратаколу Эпархіяльнага Зьезду—перад розумам і сумленьнем усіх праваслаўных нашай Эпархіі, Найвышшыя Царкоўныя Улады нашае Царквы *ня могуць* ня даць на яго адказу—таксама ў самай яснай і выразнай форме.

---

Няма, здаецца ў нашай Эпархіі — сярод усяго нашага духавенства, за выняткам хіба-ж толькі такіх асобаў, як а. а. Гапановічы, якіх Нашая Царква пазбавілася на наша шчасьце, няма, кажам мы, сьвяшчэньніка, адносна да якога апінія ўсяго нашага, дый ня толькі беларускага, але й усяго праваслаўнага грамадзянства — была-б настолькі аднолькавай, усталенай і патапляюча-забіўчай, як адносна да архім. Марозава!

Ад 1925 г., калі ён зрабіў — неспадзявана для ўсіх... ня ведаўшых яго—свой знамяніты „пералёт“ у каталіцтва — у надзеі атрымаць... „лілёвую мантыю“ вуніяцкага біскупа, у прэсе, мясцовай, сталічнай ды замежнай,—гучна стала ад яго „чынаў“ і „выступленьняў“. Усе памятаюць, як ён, атрымаўшы для сябе касьцельную катэдру Аўгусьціянскіх муроў, ганьбіў з яе ў працягу блізу паўтара гады „*так-званае праваслаўе*“ (яго ўласны выраз, ужыты ім як у слове, таксама і на пісьме!). Усе памятаюць, як той архім. Марозаў, пабыўшы ведамы час „ксяндзом“, дый не атрымаўшы „абецанага“(?) яму біскупскага сану, вярнуўся назад—„на своя блевотины“, „смиренно раскаявшися“, дый... запляваўшы сугуба й „так-званы Каталіцкі Касьцёл“, так балюча „ашукаўшы“ (?) яго чэсталюбівыя амбіцыі...

Калі-б у-ва ўсім гэтым быў запраўды хаця цень якіх-нябудзь „рэлігійных шуканьняў“, „гарэньня духа“, ці чаго падобнага, можна было-б усё гэта выбачыць дый толькі радавацца таму, што „блудный сын“ Царквы нашай вярнуўся назад у „отчій дом“, што Матка-Царква, якая „всѣм хочет спастися и в разум истины прійти“, прыняла яго назад — у сваё „любвеобильное лоно“... Але-ж і тады — трэба было-б захаваць хаця-б „пазоры“ строгасьці ды *справядлівасьці: пакараць часовага адступніка судом праведным.*

Замест таго, адразу-ж архім. Філіп назначаецца Цэнтральнай Уладай на становішча „эпархіяльнага місіянера“... Які быў лёс і вар-

тасьць гэтага яго „місіянерства“, мы бачылі з пастановы Эпархіяльнага Зьезду. Так імсьціцца ў сваіх выніках цяжкая памылка Цэнтральнай Царкоўнай Улады, *залішне лёгка* паглядзеўшая на цяжкае праступленьне проці Царквы з боку яе сябра, якому „так многа было дано“, але з якога—„так мала взыскано“...

Наша Найвышшая Царкоўная Улада неяк—у сваім акце міласьці да „блуднага сына“ — запамятала, што Бог, як трафна кажа адзін з найвялікшых хрысьціянскіх багасловаў (праўда — заходніх), ёсьць *аднадчасна і дасканалая Любоў і найвышэйшая Справядлівасьць...* Дык у яе акце запанавала любоў, але—коштам справядлівасьці...

Што „раскаяніе“ архім. Марозава было няшчырае — што ён *ня варты быў гэтай міласьці*, доказам уся яго дзеяльнасьць ранейшая, а—асабліва-ж *пазьнейшая*, дый спэцыяльна *яго цеснае супрацоўніцтва цяпер з сьв. А. Коўшом і „так-зван. „Ц. Б. Пр. К-там“, якога ён зьяўляецца галоўным інформатарам і дарадцам.*

---

Але—у цяжкіх праступках архім. Ф. Марозава проці Царквы, апроч іх духоўнага, рэлігійнага боку, ёсьць яшчэ — на падвойны жаль, на падвойнае абурэньне з боку ўсяго праваслаўнага грамадзянства—іншыя рэчы, ужо проста і бясспрэчна *звычайна й сьвецка крымінальнага характэру*, на якія мы тутака зьвертаем асаблівую ўвагу—як нашых царкоўных уладаў, маючых абавязак сачыць за цэласьцю царкоўнай маемасьці, а таксама — і ўладаў пракурорскага нагляду, якія абавязаны сачыць за належнай аховай законаў ды правоў прыватнай і грамадскай уласнасьці.

Закіды, якія робім мы тутака, мы заўсёды можам *пацьвярдзіць на судовым працэсе паважнымі сьведкамі.* Таму просім нашых чытачоў разглядаць нашыя „рэвэляцыі“ не як нейкае „жаданьне безадказна чарніць няўгодную (?) нам асобу“. Наадварот — мы першыя самі страшэнна сумуем, што змушаны публічна выстаўляць цяжкія закіды прадстаўніку нашай царкоўнай іерархіі. Але на гэта ўжо няма рады: з «соблазном», які даўно ўжо стаўся скандалам у нашай Эпархіі, а навет—у ваўсей Мітраполіі, пара ўжо скончыць. Маўчаць надалей было-б проста праступна. Бо-ж сваей шкоднай працы над шэльмаваньнем ды раскладаньнем «так-званага Праваслаўя» а. Марозаў зусім ня спыніў, вярнуўшыся ў лона Мацяры-Царквы, але толькі перанёс яе ў «гоно» — „Ц. Б. Пр. Комітэту“, схаваўшыся за плечы яго адкрытых кіраўнікоў і „тайных“ удахнавіцяляў...

---

„Калі о. Кулік-Науменко і Швэдко, піша да нас заслугоўваючая на давер асоба, вярталіся з вуніі, яны перацягнулі з Андрэяўскай вуніяцкай царквы ў Духаў Манастыр масу быўшай там рознага роду праваслаўнай царкоўнай маемасьці, забранай адтуль а. Філіпам Марозавым Было там шмат чашаў, падсьвечнікаў, крыжоў, митра (з Духава Манастыра, яна дагэтуль—на галаве а. Філіпа), поўны набор дарагацэнных багаслужэбных кнігаў у чырвоных скурных вокладках з надпісамі: *„принадлежит Вил. Свято-Духову Монастырю“*,— дый шмат іншых рэчаў. Усе гэтыя рэчы—па трэбаваньню вуніяцкага

*ксяндза* archimandryty Filipa Morozowa — паліцыя зараз-жа адабрала назад дый зьвярнула ксяндзу Марозаву...

„У 1927 г., пераходзячы назад у Праваслаўе, *сьвяшчэньнік* Марозаў усе гэныя рэчы, разам з іншым дабром — *на некалькіх вазох* — перавёз у адведзенае яму памешканьне ў Духавым Манастыры.

„І вось—у часе наложанай на яго лёгкай „эпітэмы", аддаючыся пачуцьцю глыбокага пакаяньня", шчасьлівы валадар усяго гэтага — вялікай вартасьці ды каштоўнасьці — дабра, прыступае безадкладна да сьпешнай ліквідацыі ўсяго гэтага „ўласнаручна здабытага", як выражаўся адзін з „герояў" М. Горкага, дабра. Скромная келія манаха, „пустынніка и нестяжателя" зараілася дый загучэла ад усялякіх скупшчыкаў, пасярэднікаў і комісіянераў, пераважна, як ведама, жыдоў. На вялікі жаль—змушаны сцьвердзіць, што ўсё гэта адбывалася блізу на вачох усіх... Кожны, хто толькі здолеў, сьпяшыў „адратаваць" нешта й для сябе... І толькі нялічныя адзінкі пачалі ратаваць, што мага, для царквы, шукаючы ды знаходзячы асьвячоныя дый так сплюгаўленыя „каючымся манахам" царкоўныя рэчы ў розных гандляроў па іх крамках ды прыватных кватэрах"..

*З поўняй адказнасьцю* за тое, што пішам тутака, мы (Рэдакцыя) цьвердзім, што маем *цалком верагодных, аўтарытетных сьведкаў*, якія—ня толькі могуць пацьвердзіць паданыя тут факты, але могуць навет прэдставіць суду тыя царкоўныя рэчы (як чашы і крыжыі і інш.), якія імі куплены назад ад гэтых скупшчыкаў.

„Характэрная рэч, піша далей наш корэспандэнт,—а. Марозаў прадаў паміж іншым багатую белую шаўковую рызу з мастацкім абразам Іосафата Кунцэвіча, якога скупшчыку выдаў за... Мікалая Чудатворца!.. Відаць з гэтага, што маемасьць была „зьбірана" ня толькі з праваслаўных цэркваў... Зразумела-ж—ня ўсё удалося „спустить". Шмат чаго засталося, так ці інакш схаваным, у новага „ўласьніка" гэтых рэчаў. Некаторыя з іх дагэтуль адкрыта знаходзяцца ў яго „келіі манаха".

Тамака, прыкладам, і цяпер вісіць дарагая копія слаўнага абразу „Сьвятое Сямейства", які абраз быў зьняты а. Філіпам у Царкве Сьв. Траецкага Манастыра, дзе ён столькі гадоў вісеў над сьвячным сталом. Хто-ж з віленскіх сэмінарыстаў ня ведае гэнай копіі? А яна-ж таксама—разам з а. Філіпам—пабывала ў вуніі дый—поруч з ім - вярнулася назад у Праваслаўе—на правах яго асабістай уласнасьці... Таксама вісеў у яго келіі сымболічны абраз „Кедр Ливанскій". Таксама й блізу ўся абстаноўка келіі: буфэт, канапа *) і інш. Усё гэта—малыя рэшткі багатых трофэяў з „крыжовых паходаў" нашага „крестоносца"—проці „так званага Праваслаўя"...

У свой час у газэтах, як у газ. „За Свободу" (№ 180—1926 г.) і інш, зацікаўленыя праваслаўныя організацыі гучна загаманілі аб гэтых „трофэях". Былі высунены публічна цяжкія закіды архім. Марозаву і, „яго пособнику" прот. Кушняву. І вось тутака ярка высьветлілася ўся розьніца паміж гэтымі асобамі—з моральнага й грамадзкага пункту гледжаньня. Прот. Кушняў зараз-жа перадаў справу

*) З маемасьці Прав. Дух. Сэмінарыі.

ў суд і нейк дабіўся свайго абяленьня. Што датычыць архім. Марозава, дык ён навет, „вокам ня міргануў“, як быццам не яму, праваслаўнаму сьвяшчэньніку, гэта кінены ў вочы публічны закід, выбачайце, за рэзкае, але точнае слова: у масавым аграбленьні ці абкраданьні праваслаўных храмаў...

---

Здаецца, ад таго часу й пачалося разыходжаньне паміж а. Марозавым і прот. Кушнявым, а пачалося збліжэньне паміж а. Марозавым і сьвяш. А. Каўшом. Архім. Марозаў становіцца галоўным інформатарам сьв. Каўша ў яго слаўных рэвэляцыях аб „тайнах“ Консісторыі. Гэта сьцвярдзіў сам сьв. Коўш у офіцыяльным адказе Консісторыі. (27 ліпня 1930, № 16).

Пасьля наступіў чамусьці часовы „разрыў“ паміж абодвума дзеячамі царкоўнай смуты. У выніку — сьв. Коўш „моцна даў, што называецца“ — ў сваіх слаўных „аднаднёўках“ — побач з іншымі — і архім. Марозаву. На гэта той вельмі востра зарэагаваў, нажаль *не рэчовым высьветленьнем закідаў*, але „моцнымі словамі“, назваўшы сьв. Каўша — ў сваіх казаньнях дый у пісьме ў расейскай газэце „Наша Жизнь“ — „*грязным ковшом, которым выліваютъ на православное духовенство зловонные помои*“.

Але ўсе гэтыя *дакладныя* ўзаемныя „кваліфікацыі“ зусім ня перашкодзілі абодвум былым прыяцелям, пасьля ворагам, стаць зноў прыяцялямі-супрацоўнікамі — ў ведамай усім дый точна ўжо азначанай дый запротоколенай на Эпархіяльным Зьездзе (Протокол № 4) „*каінавай працы*“ так зван. „Ц. Б. Пр. К-ту“.

Што можа выйсці ў далейшым з гэтага „супрацоўніцтва“ такіх двух „выдатных дзеячоў“, ясна кожнаму. Спадзяемся-ж, што Вышэйшыя Улады нашай Царквы — ў поўным зразуменьні гэтай небясьпекі — прымуць урэшце рашучыя меры, каб спыніць „соблазн“ і скандал, столькі ўжо гадоў трываючы ў нашай Епархіі, дый тым папярэдзіць далейшы развал нашай шматпакутнай Царквы.

---

У заключэньне прыводзім кароткі зьмест надзвычай цікаўнага дакумэнту, з якога відаць, што безпрыкладная дзеяльнасьць і самая асоба архім. Філіпа былі—ў поўнай сваей вартасьці—ацэнены мясцовымі эпархіяльнымі чыньнікамі ўжо блізу 10 гадоў таму назад.

Вось аб чым кажа гэты документ.

„Виленская Прав. Дух. Консисторія, заслушав доклад перваго своего члена о. архим. Антонія — *о лживой информации* со стороны о. Ректора Віл. Духовн. Семінарыі, архим. Филипа (на имя Владыки Митрополита) — „по дѣлам совершенно его не касающимся“..., „считает нужным означенному о. архимандриту выразить *свое негодующее порицаніе, как за сѣяніе смуты так и клеветническія измышленія его, совершенно не соотвѣтствующія дѣйствительности*“. ...„ и просит (Владыку Митрополита) о воздѣйствіи на вышеназваннаго о. р. Вил. Дух. Сем., дабы в будущем предотвратить могущіе имѣть роковое значеніе *доносы и клеветническія измышленія о. архим. Филиппа, стяжавшіе ему громкую извѣстность* (!), *как*

*в предѣлах Польши, так равно еще и на студенческой его скамьѣ, гдѣ он неоднократно вооружал Ректора Академіи против своих же товарищей-студентов*".

Мы не падаем тутака сутнасьці справы, з прычыны якой зроблена такая катэгорычная ды красамоўная пастанова Віл. Дух. Консісторыі, *афіцыяльна запротоколяная дый перасланая Галаве Прав. Царквы ў Польшчы* *). Зразумела-ж ня гэтае важна дый цікавіць нас тутака.

Важна тое, што Віл. Дух. Консысторыя, на чале якой стаялі тады такія ведамыя дый агульна паважаныя пастыры, як архім. Антоні, прот. Пліс і прот. Сасноўскі, якія падпісалі пастанову, выдалі ўжо тады вычэрпываючую *моральную атэстацыю* свайму сябру а. Ф. Марозаву, *прадбачачы ўжо тады „роковыя" пасьледствы*, якія няўхільна пацягне за сабой далейшая дзеяльнасьць такой „моральнай адзінкі" як гэты „пастыр", дый *перасьцярагаючы ўжо тады* — 10 гадоў назад — ад небясьпекі гэтых наступстваў Найвышэйшую Уладу...

Нажаль — меры гэтыя сваячасна прыняты не былі, у выніку — „здарылася тое, што здарылася" як кажа ўсходняе прыслоўе...

І гэта Консісторыя ведала, ведала Эпархіальная ўлада, ведала Цэнтральная ўлада Мітраполіі... І ўсе пакідалі на становішчы „ўзгадаваўцы духоўнай моладзі", як цяпер сябрам консісторыі, асобу, кароткую ды прыблізную характэрыстыку спрабавалі мы накінуць вышэй...

*Кара павінна была надыйсці.*

Яна й надыйшла: вялікшага скандалу, як з „пералётам туды й назад" архім. Марозава ня было яшчэ дагэтуль у нашай Царкве.

Моральнае сумленьне тых, хто даведаўся дакладна аб усей „кар'еры" архім. Філіпа, павінна цярпець нязносную боль. Запраўды-ж побач з цэлым ланцугом выразных і бясспречных *нарушэньняў* гэтым „айцом" і „монахам" законаў Божскіх і чалавечых — *ідзе роўналежны ланцуг такіх-жа выразных пасьпехаў і трыумфаў гэтага „пастыра"*... Ці-ж можа быць нешта больш руйнуючае нашую моральную сьведамасьць, больш „соблазняющее", больш небясьпечнае для здароўя ўсей нашай праваслаўнай царкоўнай грамадзкасьці?!.

Бо-ж кожны павінен будзе запытаць і сябе і другіх: *Хто-ж, якая ўлада ня толькі толеруе ўсе яго праступкі, але й—награждае яго ня толькі безкарнасьцяй, але яшчэ й пасьпехамі?!.*

*Дык ці-ж можна надалей пакідаць на такую „спробу" самыя моральна-рэлігійныя падставы духоўнай улады ў нашай шматпакутнай Царкве Праваслаўнай?!.*

Ня можам дапусьціць, каб гэты наш „Голас Праваслаўнага Беларуса", голас, які бязсумлíўна падзеляць усе іншыя праваслаўныя, дый наагул усе іншыя веруючыя, а навет і іншых рэлігіяў каб гэты голас нашага сумленьня, у якім жыве сам Бог,—астаўся без водгуку на наступнай Сэсіі Прав. Сіноду!!.

---

*) 4. І. 1923 г.

# АГЛЯД ПРЭСЫ.

## „Беларуская Крыніца“ аб „бесах“ і „ангелах“.

Дзіўная рэч: нашы браты з лягеру „Бел. Хрысьціянскай Дэмакратыі“—у кіраваным каталіцкімі ксяндзамі яе органе „Бел. Крыніца“—з усіх сілаў бароняць „Праваслаўны Камітэт“ а. Каўша і п. Вярнікоўскага, а побач з тым консэквэнтна. хаця—па сутнасьці—зусім незразумала, за што, страшэнна бэсьцяць наш часопіс. Характэрна, што навет найлепшыя „полемисты“ з „аднаднёвак“ ды „Сьветача“ не дазваляюць сабе пісаць пра нас тое, што поўнымі жменямі кідаюць на нас, не шкадуючы чысьціні рук, п. п. кіраўнікі „Б. Кр.“. Можна сказаць больш: уся „полеміка“ проці нас ад самага выхаду нашага часопісу вялася не „Сьветачам“, але „Б. Крыніцай“, дый толькі апошні № „Сьветача“ блізу літэральна паўтарае ўсе „закіды“ ды лаянкі „Крыніцы“, як быццам усе яны пісаны былі аднэй рукой...

Паслухайце-ж гэтай „полемікі“.

Нашы часопіс, гэта—„мяшанка масонска-атэістычнай гэзаўшчыны“ (?) „Б. Кр.“—№ 5—1932. Мы, гэта—„дзяльцы, комісыянеры з рынку пасярэдніцтва беларускімі справамі, кланяўшыяся сьпярша ў бок молата з сярпом (?), а цяпер—у бок беларуска-польскага аб'яднаньня“ (?) ...Мы, гэта—„падвойнай народнасьці—польскай (?) і беларускай—гандляры беларускімі душамі, якія таргуюць беларускім сумленьнем, „прымазаліся“ да рэлігійнага жыцьця, каб змагчы ўзьлезьці ў беларускі асяродак“ (?) —„Б. Кр.“ № 1—1932. Мы, тэта — „бесы ў царкоўнай званіцы, якія ўзялі—у змаганьні з сваімі ідэолёгічнымі (?) праціўнікамі („ангеламі“), такі „хрысьціянскі тон, якога ня чуў яшчэ дагэтуль хрысьціянскі сьвет“. („Б. Кр.“—№ 3—1932).

Праўду сказаўшы, да „хрысьціянскага тону“ крынічных „полемікаў“ нашаму часопісу далёка: іх вуха, відаць, значна далікатнейшае, як іх язык...

Нажаль толькі — чаму газэта ня прыводзяць ні воднага прыкладу ані фактаў ані „тону“, абурыўшых іх у нашым часопісу, прыпамінаючы гэтым дасьціпнае азначэньне „лаянкі“ ў Шопэнгаўэра, як „умозаключэньне без пасылак“... А другое—чаму яны ня прыложаць, (—для нашага ведама), — хаця-б кароткага выкладу „ідэолёгіі“ п. п. Вярнікоўскага і Більдзюкевіча, бо-ж гэта іх газэта — хіба-ж залішне многа чэсьці для нас!—лічыць нашымі „ідэолёгічнымі“ праціўнікамі...

Варта прыпомніць, што выхад „Сьветача“, а навет слаўных „аднаднёвак“ „Бел. Крыніца“ вітала ў свой час захопленымі артыкуламі, за якія, як мы бачылі ў № 2 нашага часопісу, „Сьветач“ усьцяж плаціў ёй самай шчырай падзякай. Што-ж іх так лучыць ды еднае? Якая супольная „ідэолёгія“ ў беларускіх каталіцкіх ксяндзоў і ў „прыняўшых на сябе новую „каінаву ролю“,—бурыцяляў Праваслаўнай Цар-

квы — былых п. п. концэсыянераў“ „gry świetlno-kolorowej“, ці валейшовай „круцёлкі“, стаўшых раптам — „сьветачамі“ беларускага Праваслаўя“ ў вачох „Бел. Крыніцы“?...

На гэтае адзінае пытаньне, якое ставім тутака рубам п.п. кіраўнікомъ органу „Б. Х. Д.“, яны павінны адказаць ясна і нядвузначна,

Хай нашы часопіс слабы, бедны, недасканалы, але ён гуртуе навакол сябе ўсе лепшыя элемэнты беларускай праваслаўнай інтэлігэнцыі, захопленай ідэяй нашага царкоўна-нацыянальнага адраджэньня—з нашымі акадэміцкімі багасловамі ў тым ліку.

Дык чаму-ж каталіцкія кіраўнікі „Крыніцы“, усьцяж пішучыя аб роўнасьці ды ўзаемнай пашане Касьцёлу і Царквы ў Беларусі, як аб адзіным найвярнейшем шляху да запраўднага злучэньня Царквей ў будучыне, чаму, пытаемся мы, яны лічаць ідэолёгамі Беларускага Праваслаўя і барацьбітамі царкоўна-нацыянальнага адраджэньня — не нас, не наш часопіс, але іх, п.п. Вярнікоўскіх з іх „Сьветачамі“ ды „аднаднёўкамі“?! Чаму іх лічаць „ангеламі“, а нас лічаць „бесамі“?!

Ці, можа, таму, што яны, каталіцкія ксяндзы,—кіраўнікі „Б.Х.Д.“ і яе органу, як залішне шчыра захопленыя ідэяй „беларускай вуніі“, хацелі-б — за ўсялякую цану — прысьпяшыць яе рэалізацыю, хаця-б — цаной і шляхом поўнага развалу, а прынамсь найвялікшага аслабленьня Беларускай Праваслаўнай Царквы, у яе ўласнай індывідуальнасьці і самастойнасьці, без якіх ня можа быць запраўднага злучэньня?!“. Бо-ж—толькі пры такім дапушчэньні можа зразумець тое, што правадыры беларускага Каталіцтва выбралі—для рэалізацыі такой, прысьпешанай ды форсаванай „беларускай вуніі“—шляхам развалу беларускага Праваслаўя—запраўды-ж найлепшых, наймэтнейшых для гэтай задачы – таварышоў і супрацоўнікаў для сябе—спасярод „дзеячоў“ „Ц. Б Пр. К-ту“, з яго „Сьветачам“ ды „аднаднёўкамі“, „прыняўшых на сябе гэтую ролю Каіна“...

---

## Тріо.

У № 2 „Бел. Крыніцы“ сьв. Коўш зьмяшчае даўгое пісьмо, у каторым дае свае „высьвятленьне“ на зьмешчаныя ў „адкрытых пісьмах“ да яго ў № 2 нашага часопісу. Дзеля таго, што ў канцы свайго пісьма сьв. Коўш заяўляе, што ён „перадаў справу з пісьмамі з „Голасу“ прокурорскім уладам для пацягненьня віноўных да судовай адказнасьці“, мы ўстрымліваемся ад запярэчэньня цэлага раду фактычных „няточнасьцяў“, вярней: простай няпраўды, дапушчанай у яго „высьвятленьні“ — да судовага процэсу, якога будзем чакаць з панятнай для ўсіх нецярплівасьцю.

Характэрна, што з усіх віленскіх газэтаў, толькі „Бел. Крыніца“

ды „Дзеньнік Віленьскі“ гасьцінна і прыязна даюць у сябе месца „дзеячом“ „Ц. Б. Пр. К-ту“.

У гэтым „Дзен. Віл.“, органе зьвярынага польскага нацыяналізму ды сярэднявечнай каталіцкай нецярпімасьці, які з асаблівай ненавісьцяй адносіцца да ўсяго праваслаўнага ды беларускага, усьцяж зьяўляюцца рэкламнага для „Ц. Б. Пр. К-ту“ зьместу зацемкі, залішне яўна паходзячыя ад яго правадыроў. Сужыцьце ды супрацоўніцтва тутака можна сьцьвердзіць бясспрэчна.

Выдатную ролю „лучніка“ ў гэтай сталай сувязі йграе архімандрыт Філіп Морозов. Сувязь гэтую асабліва лёгка ўстанавіць на прыкладзе апошняй заметкі, зьмешчанай у № 64 „Дзен. Віл.“ з 18 сакавіка пад загалоўкам „Pojednanie“. Заметка гэта настолькі фальшыва ды абразьліва для годпасьці нашай Іерархіі прэдстаўляе візыту п.п. Вярнікоўската і Більдзюкевіча — тры месяцы назад — да Архіяпіскапа Тэодосія, што Уладыка—праз сэкрэтара Консісторыі—зараз-жа зарэагаваў на гэта рашучым запярэчаньнем хлусьні *), яўна разьлічанай на ашуканьне рашаючай сэсіі Сінода.

Офіцыяльнае запярэчаньне сьцьвярджае, што Уладыка цалком падзяляе апінію Эпархіяльнага Сабраньня аб „каінавай ролі“ дзеячаў „Ц. Б. Пр. К-ту“.

Скуль спарадзілася так своячасна для апошніх гэная зацемка „Дз. Віл.“, аб гэтым хіба-ж бяспрэчна кажа апошні № „Сьветача „Бел.“, у якім даволі неасьцярожна зьмешчаны артыкул, блізу даслоўна паўтараючы зацемку у органе слаўнага п. Обста...

Такім чынам маем характэрнае, згодна зыграўшаеся, трыо — з двух беларускіх часопісаў і аднаго польскага (але-ж якога!..), да якога — дзіва-дзіўнае!—яшчэ нядаўна належала, дзякуючы чарговому „музыкальнаму“ смаку“ п. Д. Д. Бохава, і расейская газэта „Наше Время“ своячасна аднак-жа „выцофаная“ з гэткага „концэрту“ больш паважнымі адказнымі яе кіраўнікамі...

---

## Рэкляма „Ц. Б. Пр. К-та“.

У № 2 журнала „За Соборність“, органа Т-ва ім. Петра Могили, зьмешчана паміж іншым стацьця сьв. А. Каўша, каторая—„под благовидным предлогом“—бароніць ды рэклямуе слаўны „Ц. Б. Прав. К-т“ запраўднага характэру каторага, мажа, ня ведае украінскае праваслаўнае грамадзянства. Таму радзімо паважаным кіраўнікоў журналу зьвярнуць увагу на зьмешчаны ў нас „Протокол № 4“ Епархіяльнага Зьезду — аб „каінавай ролі“, „гэт га К-ту“.

---

## „Конспиративный Журнал“.

Віленская расейская газ. „Наше Время“ адгукнулася на № 2 нашага часопісу чаловым артыкулам п. Д. Д. Бохана.

---

*) Гл „Słowo“ № 72, 30. III. 32 г.

Аўтар вельмі здаволены толькі першай, так сказаць, „акадэміцкай“ паловай нумару.

„Першыя стацьці часопісу, піша ён, бязумоўна цікаўныя, напісаны добра, з знаньнем дзела. Пад імі не стаіць ніякага падпісу, але іх ахвотна падпісаў бы кожны пераконаны й веруючы праваслаўны“.

Але далей аўтар закідае нам „залішні радыкалізм“ у трактаваньні саборнасьці, якую мы быццам зьмешываем з дэмакратычным парлямэнтарызмам. Пасярэдні адказ на гэты закід дае зьмешчаны ў гэтым № артыкул — аб праваслаўным разуменьні сутнасьці царкоўнай улады.

За тое, уся другая, так ск., конкрэтна-публіцыстычная палова № 2 зусім не падабалася крытыку. Уваходзіць, аднак, у матывы, чаму п. Д. Д. Бохану — да смаку ці не да смаку, прыкладам, нашыя „нападкі“ на сьв. Каўша ці на архім. Марозава, або — „абяляючая абарона“ (!) прот. Кушнява і т. д. — даволі цяжка. Адно, што „аб смаках ня сьпіраюцца“, а другое—смакі самога п. Бохана ды яго газэты зьмяняюцца з такой заваротнай шпаркасьцю, што пасьпець за іх „матывамі“—не пад сілу хіба-ж і самому п. Бохану. Ня будзем успамінаць падробязна, як у газэтах — папярэдніцах „Нашего Времени“, кіраваных, прынамсь у царкоўных справах, п. Боханам, бесьціліся пачарзе—прозай і вершам—сьв. Коўш—пяром архім. Марозава дый таго-ж п. Бохана, а пасьля—архім. Марозаў—пяром сьв. Каўша і таго-ж п. Бохана, а пасьля йзноў—наадварот...

Але вось і—сьвежы прыклад. — У сваім артык. п. Д. Д. Бохан рашуча заяўляе: „сообщеніе нашей газеты („Н. Вр.“) о дѣлѣ прот. Кушнева... является неопровержимой истиной“, а дзеля таго—„радости (нашага часопісу — „Г. Пр. Белар.“) з причины обѣленія рясы прот. Кушнева мы (п. Д. Д. Бохан і яго газэта) не раздѣляем“.

Але ўжо праз пару дзён у тэй-жа газэце зьяўляецца письмо самога прот. Кушнява, які рашуча запярэчыў „неопровержимой истинѣ“ Д. Д. Бохана, а пад пісьмом рэдакція—блізу нашымі славамі — выражае радасьць з прычыны „абяленьня расы праваслаўнага сьвяшчэньніка“, гэта значыць прот. Кушнява,—ад закідаў, у тым ліку—ад закідаў Д. Д. Бохана, як сябры рэвізыйнай комісіі...

У заключэньне—трэба адзначыць яшчэ адзін, хіба-ж з найпаважнейшых, закідаў п. Б. нашаму часопісу, бо-ж якраз ён даў загаловак усяму артыкулу крытыка.

»Адрес редакціи, піша ён, указан: Остробрамская, 9, кв. 15 . Але—па спраўцы, зробленай асабіста ў дворніка нашым сумленным і ўсебаковым крытыкам — „оказалось, что в этой квартирѣ проживает курьер Духовной Семинаріи... Другими словами, забіўча канчае ён, все это смахивает на конспирацію”... Адсюль і — востры загаловак: „Конспиративный Журнал“...

Цікаўна: дзе служыў п. Д. Д. Бохан перад тым, як стаў выкры-

ваць—з дапамогай дворнікаў — „конспирации“ у журналистыцы, дый на што „смахивает“ гэткае „dochodzenie“?..

Сьпяшым супакоіць небясьпечнага „крытыка“: гэта — памылка.

---

## Гр. Віттэ аб Праваслаўнай Царкве ў Расеі.

Вельмі да рэчы прывяла адна з польскіх газэт адрывак з успамінаў ведамага расейскага дзяржаўніка гр. Віттэ — аб стане рэлігіі і Царквы ў даваеннай Расеі.

> Найвялікшая, па-мойму, небясьпека, якая пагражае Расеі, піша Віттэ 20-25 гадоў таму назад, гэта развал ды заняпад жывога рэлігійнага духу... Ніякая дзяржава ня можа існаваць без вышшых духоўных ідэалаў. Без рэлігіі маса людзкая пералвараецца ў зьвяро, але ў зьвяро горшага тыпу, бо-ж маючае розум вастрэйшы, чым чатыраногія. У нас Царква зрабілася мертвай бюрократычнай установай, багаслужэньне ў нас, гэта-ж — служэньне ня Богу, але зямным багам; Праваслаўе ў нас, гэта— праваслаўнае паганства. Вось у чым -- галоўная небясьпека для Расеі. Паволі мы робімся менш хрысьціянамі, як верныя ўсіх іншых хрысьціянскіх вызнаньняў. Паволі мы робімся менш веручымі з усіх веруючых. Японія пабіла нас таму, што яна верыць у „свайго Бога“, дужа больш, чым мы ў нашага“...

Нашай Вышэйшай Іерархіі трэба добра задумацца над гэтымі прарочымі, так страшэнна спраўдзіўшыміся, словамі гэніяльнага расейскага дзяржаўніка. Бо-ж віна царкоўнай бюрократыі ў гібелі Расеі таксама ня малая. Адзіны шлях да адбудовы ў народзе „жывога рэлігійнага духу“, гэта - найбліжэйшы падыход да душы народнай уладнага духам пастыра з словам Божым у жывой роднай мове Народу. Іншага шляху няма.

---

## Польская газэта аб нашай царкоўнай бядзе.

У № 67 віленск. газ. „Слово“ зьмешчаны чарговы артыкул ведамага публіцыста В. Х(аркевіча), усьцяж высьветляючага шкоднасьць для запраўднага злучэньня Царквей стала форсаванай ды фальшаванай у нас рознага роду „дзеячамі“ унійнай акцыі.

> „Сёньня, піша ён, ужо зусім ня можна разабраць, хто каго „nawraca“ дый на якую веру. Айцоў езуітаў на веру „праваслаўную“ (?) „nawraca“ загад айца-генарала, духоўных праваслаўных на каталіцкую веру „nawraca“ пераважна прокурор (!), інтэлігенцыя пераходзіць на „obrządek“ (усходні) дзеля лёгкасьці разводаў, сяляне — з погляду на таннасьць царкоўных трэбаў і магчымасьць мяшаных жанімстваў“...

А далей—яшчэ цікаўней для нас.

Царква Праваслаўная (ў нас) зусім ня ёсьць крэпкая: даволі прачытаць ведамыя беларускія публікацыі (у „аднаднёўках“ ды „Сьветачах“ Рэд.) на тэму аб адносінах у Віленскай Консісторыі.—Калі гэта (што пісалася)—праўда, гэта—дрэнна; калі гэта—лганьне, дык таксама—дрэнна, бо-ж гэтай акцыяй (лганьня!) кіруюць духоўныя айцы... Даволі спыніцца над фігурай („postacią“) ведамага вікарыя (?) Мікалаяўскай царквы ў Вільні (хто-ж гэта, як ня сьв. Коўш, як гэта яшчэ выразьней сцьвярджае аўтар у № 69 газэты Рэд.). Даволі прыпомніць масавую фабрыкацыю праваслаўных сьвяшчэньнікаў 11 гадоў таму назад, (калі быў, як ведама, „сфабрыкаваны“ й сьв. Коўш. Рэд.), каб усьведаміць сабе фактычны стан Прав. Царквы.

„Усьведамленьне сабе фактычнага стану Царквы“ павінна быць для для нас, праваслаўных, першым крокам для яго грунтоўнай направы.

---

# Неабходныя высьветленьні.

На ўсю тую масу дурніны, лганьня ды бруду, якой напоўнены чарговы № „Сьветача“, мы, зразумела, адказываць ня будзем: ні часу, ні месца, ні ахвоты на гата ня маем. Вынятак робім толькі — дзеля фактычнага высьветленьня — ў трох наступных справах.

---

## Агіда.

„Сьв. Б.“ дазволіў сабе кінуць адразу Архіяпіскапу Тэодосію, дырэкцыі В. Бел. Гімназіі і нашай рэдакцыі закід, быццам тыя 300 злот., якія Уладыка ахвяраваў (у дзьве „раты“) „нібы на карысьць незаможных вучняў“, фактычна дадзены ім дый пайшлі на выданьне „бязбожна-масонскага часопісу“ „Гол. Прав. Бел. — на „траўлю супроць Ц. Б. Пр. К-ту“.

Дырэкцыя В. Бел. Гімназіі — праз нашы часопіс — просіць настойліва ўсіх тых асобаў, у якіх агідны закід „Сьветача Б.“ выклікаў хаця-б малы сумліў, асабіста зьявіцца ў канцэлярыю Гімназіі, каб спраўдзіць па яе кнігам, куды пайшлі ахвяраванныя Уладыкай грошы.

---

З найбліжэйшага акружэньня Архіяпіскапа нас просяць падаць да агульнага ведама, як заглядаецца сям Уладыка на ўсё, што аб Ім піша „прэса“, падобная „Сьветачу“.

Раўнадушна пагарджаючы ўсю гэтую агідную зьвягу, Уладыка не патрабуе ніякай „абароны“ ці „аховы“. Бо-ж Яго жыцьцё і дзеяльнасьць адкрыта праходзіць на вачох усяго праваслаўнага грамадзянства і існуючых уладаў. Ніякімі „тайнымі“ дзеламі Ен не зай-

маецца дый не баіцца ніякіх „падглядаў“ і ніякага сўду чалавечага. Што-ж датычыць „дзеячоў“ з „Ц. Б. Пр. К-та“ ці з яго „Сьветача“, дык Ен прымаў іх, пакуль не разглядзеў іх добра. Калі-ж разгледзіў добра, дык перастаў прымаць і спыніў наагул з імі ўсялякае „общеніе“. Прыводзім з магчымай точнасьцю ўласныя словы Уладыкі, каб ня было ўжо ніякіх сумліваў у „вялікіх“ дый ніякага „соблазну“ для малых сіх.

---

## „Зьнімаюць сваі подпісы“.

„Сьветач Б“. зьмясьціў пісьмо ў рэдакцыю прыхаджан Віл. Мікал. Царквы з заявай аб тым, што яны „зьнімаюць сваі падпісы па неасьцярожнасьці“ пастаўленыя імі пад ведамымі „адкрытымі пісьмамі“ к сьв. А. Каўшу, зьмешчанымі ў № 2 „Гол. Прав. Беларуса“. Рэдакцыя „Сьветача“ дадала пры гэтым ад сябе, што пісьмо гэтае з подпісамі „перахоўваецца ў рэдакцыі, дый, што апроч таго, „у рэдакцыі знаходзяцца заявы некаторых асобаў (!) аб тым, што подпісы іх пад пісьмамі „Г. Пр. Б.“ — падроблены“...

На якую, выбачайце, дурніну свайго чытача разьлічае, зьмяшчаючы гэтую „штучку“, рэдакцыя..!? Справа-ж — залішне ясная. Калі хто з падпісаўшых пісьмы запраўды хоча „зьняць свой подпіс“, дык павінен заявіць аб гэтым нашай рэдакцыі, якая, пэўне-ж, абвесьціць аб гэтым у форме, якая будзе пажадана для гэтай асобы. Што-ж датычыць „заяваў некаторых асобаў“, быццам „іх подпісы падроблены“, дык такія заявы павінны „знаходзіцца“ не ў рэдакцыі „Сьв. Б.“, але ў прокурора.

Няўдала-дурная выдумка выдае сама сябе, дый толькі сцьвярджае, што навет сама рэдакцыя „Сьв. Б.“ ня можа запярэчыць подліннасьці нашых пісьмаў, масова падпісаных прыхаджанамі Сьв. Мікалаяўскай Царквы.

---

## Яшчэ ў справе прот. М. Кушнява.

Хаця з усіх часопісаў толькі адзін „Сьветач Б.“ паўтарае яшчэ сваі закіды прот. М. Кушняву ў справе ліквідацыі эпарх. складу, зьмяшчаем—па просьбе а. М. Кушнява — з прэдстаўленых ім судовых докумэнтаў—подлінный тэкст „заключэньня прысяжнага экспэрта“, які з даручэньня В. О. Суду — прысьвяціў вывучэньню іх 120 гадзін. Вось ён:

„Orzeczenie biegłego. — Sprawozdanie rewidującej skład Komisji, podpisane 5. IV. 1927 r. przez ks. prot. Zebrowskiego, D. Bochana i J. Szpilewskiego, zawiera wnioski bezpodstawne, fałszywe, przedstawiające działalność ks. Kuszniewa w świetle niewłaściwem, w sposób dla niego krzywdzący“.

Па іншым таксама старым „закідам“ а. Кушняў таксама ня мае, што дадаць да таго, што пастанавіў суд.

# ХРОНІКА.

— Сэнсацыяй апошняга часу ў царкоўных кругах зьяўляецца звольненьне—пад націскам прыходжан—настаяцеля царквы у Лідзе, прот. Жданава — за цэлы рад надужыцяў, аб якіх у свой час паведамім чытачоў. Прот. Жданаў асабліва ўславіўся тым, што, будучы Лідскім благачынным здаў старэйшую ў краі знамянітую (сваей архітэктурай) Мала-Мажэйкаўскую царкву каталіком, навет не паведаміўшы аб гэтым сваячасна Епархіяльную Уладу. За гэта ён тады быў толькі звольнены з становішча благачыннага. Цяпер — паказаў, чаго ёнварты. Кажуць, быццам звольнены бацюшка „запісаўся ў беларусы“ дый шукае „апоры“ ў „Камітэце“ а. Каўша і Хв. Вярнікоўскага.

Такой „беларусізацыі“ Царквы мы не жадаем.

— Нас просяць зьвярнуць увагу Духоўных Уладаў на такі прыкры факт. Нядаўна Нова-Сьвецкі прыход урачыста хаваў свайго царкоўнага старасту. У сьлед за ім памерла й яго жонка. Перад сьмерцяй яна выразіла праз сваю пляменьніцу сваю апошнюю волю, каб у яе хаўтурох ня прымаў ніякага ўчасьця настаяцель прыходу прот. Краскоўскі.

Ці-ж гэта не сцьвярджае, што паміж а. настаяцелям і прыходам стасункі ненармальныя, дый гэта—у часы, калі так патрэбна асабліва блізкая сувязь між духавенствам і міранамі.

— Быўшыя ў царкве на правасл. могілках 28 сакав. на адпяваньні нябошчыка сьвяшч. А. Каўшом просяць нас зьвярнуць увагу на вельмі дзіўную службу яго. Прыкладам—у час пяяньня „Со Духом и праведными“ пайшоў кадзіць.. Пасьля „Со святыми упокой“ кінуў канон ды пачаў чытаць Апостала... Путаў простую эктэнію з сугубой.

Спадзяемся, што быўшыя на адпяваньні а. благачынны Дзічкоўскі і яго памочнік а. Савіцкі навучаць сьв. Каўша паніхіднаму чыну.

Рэдактар-выдавец: М. МАРКЕВІЧ. Друк. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.